Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная тыднёвая часопісь.

**Цана асобнага нумару 20 гр.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Ліпоўка 18.

Адрэс для карэспандэнцыі і падпіскі: паштовая скрынка № 19.

ПРЫЙМО ІНТЭРЭСАНТАЎ ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год – 6 зл., за паўгоду – 3 зл., за 3 мес. – 2 зл., за 1 мес. – 50 гр.

Год I. Вільня 15 Ліпня 1931 г. № 16

## Сталін — аб... краху камунізму, ці — пралетарская дзяржава — без пралетарыяту...

*(Паварот да „капіталізму“ — па ўсей лініі радавай гаспадаркі).*

5 ліпня — на канфэрэнцыі гаспадарчых арганізацыяў СССР — радавы дыктатар Сталін сказаў прамову, якая выклікала вялізарную сэнсацыю — ня толькі ў СССР, але і ў ваўсім сьвеце. Мова, гэтая — у поўным сэньсе слова — зьяўляецца *хаўтурнай для камунізму,* дый ня толькі ў галіне гаспадарчай.

Сталін заявіў, што „трэба спаліць шмат з таго, што лічыцца «сьвятым» у камунізьме, дый наадварот — вярнуць назад, даўшы пачэснае месца ў жыцьці, тое, што дагэтуль адкідалася, як непатрэбнае, (дурным) камунізмам“!..

З запраўды ж задзіўляючай шчырасьцяй, за якую яшчэ нядаўна выкідаў з пасадаў дый высылаў у ссылку сваіх праціўнікаў — правых апазыцыянераў — за «адхіл» ад «сталінскага курсу», Сталін — з нячуванай у СССР яшчэ рэзкасьцяй і рашучасьцяй — сам выступіў, дый ня толькі проці «сталінскага курсу», але, як бачым, — і проці самых падставаў камунізму... Пры гэтым трэба зразумець, што гэтая перамена «курсу» не зьяўляецца, як калісьці ленінаўскі «Нэп» («новая эканамічная палітыка»), толькі «перадышкай», каб пасьля ўзноў вярнуцца да недарэчных камуністычных спосабаў ды «спробаў» у гаспадарцы, руйнуючых няўхільна край. Не, — на гэты раз, відаць, гаспадарчае рэальнае жыцьцё *ўладна ўжо змусіла* павадыроў «камуністычнай дзяржавы» прызнаць цалком банкруцтва гэтых «спробаў» дый вярнуцца ізноў да спосабаў старых, пэўных, выпрабаваных усім шмат-тысячалетнім разьвіцьцём чалавецтва.

Што мы маем справу тутака не з якімсь прыпадковым «зыгзагам», ці зваротам, ані з нейкай «унутранай эвалюцыяй камунізму, але яўна і выразна — з яго бясспрэчным, сцьверджаным афіцыяльна чаловым яго правадыром — дыктатарам, крахам, — аб гэтым зусім ясна кажа прамова Сталіна.

Сталін ясна заявіў, што — у выніку тых «глупстваў, якіх нарабіла радавая ўлада ды ў якіх цяпер трэба шчыра прызнацца», — *работніцка-сялянскае гаспадарства апынулася ў такім палажэньні, што — ані з сялянскай гаспадаркі („калгасаў“) ані з работніцкай працы на фабрыках (дзе ногі і рукі работнікаў пануюць над галовамі інжынераў) — ня можа ўжо проста здабыць сродкаў для свайго ўтрыманьня...*

«Калектывізаваныя» ужо больш як напалову сялянскія гаспадаркі ня толькі не даюць нічога гаспадарству, але наадварот усьцяж патрабуюць самі бясспыннай дапамогі з дзяржаўнага скарбу. Таксама і тая работніцкая кляса, якая, здавалася-б, «здабыла ў свае рукі ўсю ўладу», дзелючыся ей з такім-жа, як яна сама, «вольным сялянствам», дый поруч з ім — «вольна і незалежна будуе сваю ўласную пралетарскую дзяржаву» — на зьдзіўленьне ды навуку ўсім іншым народам, — сам пралетарыят кідае патрэбныя для краю, неабходныя для дзяржавы фабрыкі і заводы, кідае месты, дзе займае «камандуючыя ўзвышшы», дзе карыстаецца ўсімі (якія толькі магчымы — у голым і галодным камуністычным раі) выгадамі ды прывілеямі, *і — бяжыць на вёску!..* Бяжыць на вёску, але-ж — ведама — не на «вёску» «скалгасаваную», бо тамака вёскі ўжо няма, бо-ж там — такі-ж голад, холад, такая-ж голая бяда, як і ў местах. *Бяжыць — на вёску старую, не „скалектывізаваную“*, якая, *праўда, ня мае ніякіх найнавейшых машынаў ды прыладаў, але корміць ды поіць яшчэ ня толькі сябе, але і сьмяротна варожую да сябе дый таксама сьмяротна зьненавіджаную ей самой „камуністычную дзяржаву“...* Вось гэты факт, сцьверджаны самім Сталінам, і ёсьць асноўны ў сучасным гаспадарчым стане СССР. Ён і вырашыў гэты рашучы паварот радавай улады ад камунізму да — старога, як Бог і сьвет розуму.

—

Каб папярэдзіць канчальную катастрофу, каб ратаваць тое, што яшчэ асталося, павадыры камунізму і змушаны былі парваць з усей сваей «праграмай». Запраўды — што было-б з «пралетарскай дзяржавай», калі-б разьбегся на ўсе бакі — дый яшчэ ў «кулацкую», проці-калгасную вёску ўвесь «сьведамы, пануючы пралетарыят» з местаў?

Як-жа ўтрымаць на фабрыках работнікаў, якія сьпярша ўсьцяж перебягаюць з аднэй фабрыкі на другую, пакуль не пераканаюцца, што — «няведама дзе горш», а пасьля, як сказана, уцякаюць на вёску, кідаючы фабрыку, пагражаючы поўным развалам прамысловай прадукцыі ў краі, а тым самым і поўным правалам знамянітай «пяцілеткі». Дзеля гэтага, як сцьвердзіў сам Сталін, мала яшчэ «аддаць ім на ўласнасьць» гэтую фабрыку — дый яшчэ з «уласнай дзяржавай» у дадатак: трэба зрабіць, можа, к ыху менш, але за тое — лепш, мацней і трывалей — трэба першым чынам зрабіць самую фабрыку здаровай — арганізацыйна, тэхнічна і гаспадарча — пляцоўкай працы і прадукцыі.

І вось сам Сталін заяўляе, што трэба вярнуцца да тых спрабаваных спосабаў, якімі можна — «прывязаць» — ня прымусам, але карысьцямі — работнікаў да фабрыкаў. Трэба рабіць з імі індывідуальныя (асобныя, асабістыя) умовы, выдзяляючы больш здольных, больш спэцыялізаваных, больш працавітых. Сталін аж грыміць цяпер проці так яшчэ нядаўна пратэгаванай праз яго-ж самога сыстэмы так званай парасейску «ураўнілаўкі», пры якой усе работнікі, як кваліфікаваныя спэцыялісты таксама і чорнарабочыя, як лодыры, так і шчырыя працаўнікі, атрымлівалі блізу роўную плату. Не, крычаў у прамове Сталін: гэткае тлумачэньне камунізму ды сацыялізму — дурніна, карысная толькі для лодыраў, яно — «нязгоднае з думкамі Леніна ды Маркса», на якіх аднак-жа пазываліся таксама, калі ўводзілі сыстэму «ураўнілаўкі»...

Замест «камуністычнай кругавой адказнасьці» усіх на фабрыцы за яе лёс і працу, калі ўзапраўднасьці ніякай рэальнай адказнасьці-ж няма: падзеляная на тысячу «кавалачкаў», яна проста распыляецца ды ляціць па ветру! — Сталін трэбуе, каб была *адбудавана ізноў адказнасьць індывідуальная — (асабістая)* — кожнага за сваю працу, а адзінага кіраўніка за ўсю фабрыку. А такому кіраўніку — побач з адказнасьцяй — належыцца і найвышэйшая ўлада на фабрыцы... Кіраўнікамі-ж гэтымі кажа Сталін, камандзірамі фабрыкаў, калі няма адпаведных спэцыялістаў — камуністаў, павінны быць — і нэ-камуністы!.. Дык — ніякіх больш «калегіяў дырэктароў» на фабрыках — з неабходнымі ў тым ліку работнікамі, але — адзіны дырэктар! Характэрна, што Сталін у прамове абяцаў скасаваць і так званую «непрерывку», ці 5-дзённы — для кожнага работніка — «тыдзень» бясспыннай працы на фабрыках, не зважаючы на нядзелі дый іншыя сьвяты.

Сыстэма гэтая была зусім нядаўна ўведзена грозным дэкрэтам, уведзена сілком, але, як сцьвярдзіў цяпер сам Сталін, асталася толькі на паперы, а дзе й тасуецца, дык бязглузда ды шкодна для прадукцыі...

Далей у прамове Сталін сцьвярдзіў патрэбнасьць прыгарнуць да працы ў прадукцыі ўсе старыя фаховыя сілы інтэлігенцыі, даць ім належнае іх ведзе і працавітасьці месца і ўладу. А побач з тым — узгадоўваць запраўдную новую маладую тэхнічную інтэлігенцыю, без якой ня можа быць ніякага тэхнічнага поступу ў так патрэбнай для краю прамысловасьці, якую радавая ўлада мае намер разбудаваць у нячуванa шырокім размаху... А гэта асабліва патрэбна таму, што, ня маючы назьбіраных у кра «сродкаў» (Сталін пакуль што яшчэ старанна абмінае «страшное» слова капітал!), трэба будзе будаваць новыя вялізарныя варштаты і асяродкі прамысловай прадукцыі — на Урале, у Сібіры і шмат дзе інш, якія маюць жывіць дзяржаву, расьцярушыўшую ў камуністычных спробах — фінансавыя падрубы свайго быту...

Дый яшчэ шмат чаго цікаўнага нагаварыў ды наплянаваў у канчальны развал камуністычнай гаспадаркі ў СССР — камуністычны дыктатар работніцка-сялянскай дзяржавы. Але хопіць нам і гэтага. З усяго вышэй паданага відаць ясна, што самыя падставы камунізму — псыхолёгічныя, „этычныя“, палітычныя, гаспадарчыя і ўсялякія іншыя — трашчаць у самым груньце, у сваім карані. Замест нейкага бестварнага, жаўнерска-жывёльнага «калектыву», якому можна толькі загадываць мэханічна, пагражаючы палкай, але якога ня можна ўзгадоўваць маральна, калектыву, які заўсёды мусіць «раўняцца пад ніжэйшага», урэшце нават усемагутныя правадыры пад пагрозай усекраёвага развалу і правалу — пачулі патрэбу абапёрці новы лад ды новае будаўніцтва народнага і дзяржаўнага жыцьця *на ўзгадаваньні чалавечай асобы, на працы адказнай чалавечай адзінкі, якая толькі тады й можа стаць падставай грамадзкага ладу, калі захаваны ды шануюцца прынцыпова — яе сьвятыя правы чалавека і грамадзяніна.*

Праўда — да поўні гэтай сьведамасьці, да гэтага разуменьня чалавека, як маральнай асобы, як рэлігійнай самамэты і самацэннасьці, правадыром камунізму з Сталінам на чале — яшчэ далёка. Але тое, што толькі такая асоба мае поўнавартае значэньне і ў гаспадарчым творстве, што толькі такі маральна ўзгадаваны працаўнік здолее вывясьці зруйнаваны дарэшты вялізарны край з канчальнай катастрофы, гэта ўжо быццам ясна пачулі нават радавыя дыктатары, апосталы «эканамічнага матэрыялізму», якія «матэрыяльны чыньнік» ставяць заўсёды — побач з чалавечым стадам — калектывам — вышэй за ўсялякія духоўныя вартасьці ў сьвеце...

—

Такім чынам — на нашых вачох «пралетарская дзяржава» пагражае апынуцца... без пралетарыяту, які бяжыць з сваіх «палацаў працы» на „кулацкую“ вёску... А таксама — «эканамічны калектывізм» яўна рызыкуе пазбавіцца цалком, як сцьвердзіў Сталін, — і эканомікі і нават самога «калектыву»!.. Дык дзіва, што Сталін крута павярнуў назад: калі ня можа адратаваць самога камунізму, дык трэба адратаваць «хаця-б»... край з яго 200 міліёнамі насяленьня!.. Але першым чынам, зразумела-ж — трэба ратаваць саміх сябе — камуністычную ўладу...

Але вось у гэтым і ёсьць яўная супярэчнасьць, бо край пачаў яўна ўжо ратавацца сам — ад камунізму!

## Жудасная статыстыка.

Толькі што вышла ў нямецкай мове кніжка, у якой аўтар падлічыў, колькі ўсяго ахвяраў забілі камуністычныя каты ў СССР.

Дык вось — агульная лічба ўсіх забітых толькі ад 1917 г. да 1923 г. дасягае 1 міліёну 765 тыс. 065 асоб.

Аўтар дае далей і падзел гэтых ахвяраў — паводле іх прафэсіяў ды становішчаў. Вось гэты сьпіс: 25 япіскапаў, 1215 сьвяшчэньнікаў розных вераў, 6575 прафэсараў і вучыцялёў, 8800 дактароў, 54.850 ахвіцэраў, 260.000 жаўнераў, 10.500 паліцыянтаў, 48.000 жандараў, 12.850 чыноўнікаў, 355.250 розных іншых інтэлігентаў: адвакатаў, пісьменьнікаў, студэнтаў і т. д., урэшце — *815 тысячаў сялян і 192 тысячы работнікаў.*

Трэба дадаць, што ўсе гэтыя лічбы ўзяты выключна з афіцыяльных публікацыяў радавай прэсы.

